# СЛОНІМСКІ КРАЙ

№ 2, сакавік 2016

Краязнаўчы бюлетэнь




# 100 гадоў слонімскаму перыядычнаму друку

Гэтая юбілейная дата з'явілася нечакана. Доўгі час даследчыкі спрабавалі вызначыць, якая ж газета на Слонімшчыне была першай? Не выключалася, што гэта — яўрэйскія ці польскія выданні, альбо савецкая "вусная газета" (адзіная ў гісторыі нашага горада). І раптам даведваемся, што не, першай была газета на нямецкай мове. І яна — гумарыстычная! Першы нумар "Der Schara — Lurch" ("Шчараўская Жаба") выйшаў дзесьці ў пачатку вясны 1916 года. Шкада, але ён не захаваўся (больш падрабязна пра гэтае выданне гл. на ст. 2).

Так, газету выдавалі не мясцовыя жыхары, а нямецкія вайскоўцы, акупанты (ішла Першая сусветная вайна і Слонім быў у прыфрантавой зоне). Слонімцы ўвогуле маглі яе не бачыць. Але факт застаецца фактам — гэта было першае перыядычнае выданне ў нашым горадзе. Таму і адчуваем супярэчлівыя пачуцці: ёсць юбілей, але наўрад ці наладзім яго святкаванне...




За гэтыя 100 гадоў у Слоніме і на Слонімшчыне выйшлі больш за сотню перыядычных выданняў — газет, часопісаў, самвыдату. Асабліва плённым стаў перыяд незалежнай Рэспублікі Беларусь. Найлепшыя творчыя сілы спрычыніліся да выдання самай разнастайнай перыёдыкі. Па ёй можна вывучаць гісторыю Слонімшчыны. Адзінае, што заклапочвае — гэта мінімальная прысутнасць матэрыялаў на беларускай мове ў слонімскіх і жыровіцкіх выданнях у апошнія гады.

- Што такое Слонімшчына?
- Гэта наша Беларусь!
- Што такое Беларусь?
- Гэта наша Ўсё!

# “Шчараўская Жаба” — першая газета ў Слоніме

У 1916 годзе ў Слоніме пачала выходзіць нямецкамоўная газета “Der Schara — Lurch” (“Шчараўская Жаба”). Пад лагатыпам пазначана, што гэта быў “гумарыстычны часопіс шэрых палёў і зялёнай лістоты”. Выданне было рукапісным, аздобленым малюнкамі таленавітага мастака. Гатовы макет нумару памнажаўся, магчыма, на шапірографе. “Рэдакцыя і выдавецтва” знаходзіліся ў цэнтры горада — на тагачаснай Парадней вуліцы (цяперашняя Першамайская вуліца). Прозвішча рэдактара ў 9-м нумары ад 1 лістапада 1916-га, які мы мелі магчымасць праглядзець, адсутнічае.

Газета з гумарам пісала пра жыццё нямецкіх вайскоўцаў у Слоніме, нехта пад крыптанімам Э. К. змясціў артыкул “Год гарадской друкарні”. Безумоўна, “фішкай” газеты з’яўляюцца яе малюнкі. Часам некалькі з іх аб’яднаныя нейкай адной тэмай. Напрыклад, “вайна ў 16 годзе ад нараджэння Хрыста” і “у 1816 годзе ад нараджэння Хрыста”. Дарэчы, нямецкія даследчыкі, пішучы пра вайсковую прэсу часоў Першай сусветнай вайны, адзначаюць, што слонімская газета мела ці не самую арыгінальную назву і змест.

На сённяшні дзень асобныя нумары выдання захаваліся ў бібліятэках Польшчы, Германіі і ЗША. Апошні вядомы нам нумар газеты выйшаў 20 снежня 1916 года. Ці выходзіла яна ў 1917 годзе, інфармацыі няма.

***Сяргей Ёрш, Сяргей Чыгрын***


Jahrgang 1. Nummer 9.

Der Schara-Lurch

Zeitschrift für Feldgrauen und Laubgrünen Humor

Erscheint periodisch Slonim, den 1. 11. 16. Kriegsnummer.


Der Krieg im Jahre 16 nach Chr.

Rege Mitarbeiter an diesem Blatte werden gut honoriert. Gediegene Beiträge sind immer willkommen.


im Jahre 1816 n. Chr.

Ein Jahr Stadt-Druckerei

*КНІГАРНЯ*

## Кніга пра гісторыю слонімскага перыядычнага друку




У мінскім выдавецтве “Кнігазбор” у лютым 2016 года выйшла з друку кніга Сяргея Ярша і Сяргея Чыгрына ***“Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны”***. Аўтары шукалі матэрыялы па тэме на працягу дзесяцігоддзяў. Імі былі сабраныя звесткі пра больш за сотню слонімскіх выданняў, якія выходзілі з 1916 года. Пра некаторыя газеты і часопісы дагэтуль нічога не было вядома, а цяпер слонімцы змогуць не толькі пачытаць пра іх гісторыю, але і пабачыць, як выглядалі гэтыя выданні.

***С.К.***

# Пячаткі Слоніма



Сучасны герб Слоніма

Пячаткі пачалі выкарыстоўваць яшчэ ў старажытных краінах Усходу – Егіпце і Вавілоне, адкуль яны пазней патрапілі да грэкаў і рымлян. Рымляне звычайна выкарыстоўвалі пячаткі-пярсцёнкі, якія прыкладваліся да рознага кшталту дакументаў. Падчас перасялення народаў звычай выкарыстання пячатак пераняли кіраўнікі плямёнаў, якія патокамі сваіх перамяшчэнняў патапілі некалі магутную Рымскую імперыю. Аднак шырокім выкарыстанне пячатак стала толькі ў XII стагоддзі. Гэтаму садзейнічала феадальная раздробленасць, падчас якой вялікія дзяржаўныя



Пячатка С.Карпоўскага, 1646 г.

ўтварэнні ў Еўропе рассыпаліся на шматлікія надзелы на чале з ўласнымі князямі. Не выключэннем з’яўлялася і тэрыторыя Беларусі.

Пячатка ў той час замяняла сабою подпіс, таму яе аздабленню надавалася вялікая ўвага. На сённяшні дзень вядомы адбітак пячаткі слонімскага войта С. Карпоўскага ад 1646 года, якой пацвярджаўся акт продажу аднаго з дамоў у горадзе. Пячатка зацвярджала легальнасць заключанага пагаднення.

У часы існавання Вялікага княства Літоўскага падчас распаўсюджвання права на самакіраванне ўласныя пячаткі пачалі атрымліваць і гарады. Сярод іх быў і Слонім, якому 20 студзеня 1532 года, выдадзеным у Кракаве прывілеем караля і вялікага князя Жыгімонта Старога было нададзена магдэбурскае права. У прывілею адзначалася: «Тое место наше Слоним, с права Литовского и Русского и которое «коли будет там перводержано, в право Немецкое, которое зовется Майтборское, переменяем на вечные часы»[1]. Аднак у дакументах з таго перыяду аб гербе ці пячатцы горада няма ні слова.

Затое пасля таго, як Жыгімонт Ваза 4 студзеня 1591 года пацвердзіў магдэбурскае права, Слонім атрымаў герб — на блакітным полі залаты леў з падвойным крыжам, які нагадвае герб Ліс (страла з двума крыжамі). Герб Ліс належаў да рода Сапегаў, а сам леў, напэўна, паходзіў ад імя падканцлера Льва Сапегі, які ў 1586 годзе быў слонімскім старастаю. Прывілей 1591 года захаваўся. Арыгінал быў знойдзены беларускім даследчыкам Анатолем Цітовым у Пецярбургскіх сховішчах рукапісаў. “Гэта вялікі пергамінавы аркуш спісаны беларускім скорапісам канца XVI ст., — піша даследчык. — На прывілеі меўся і малюнак герба. Але, на жаль, прывілей у свае



Герб Слоніма, 1792 г.

часы захоўваўся недастаткова ашчадна, таму малюнак вельмі пашкоджаны вільгаццю і амаль знік, тэкст чытаецца вельмі цяжка... Паводле апісання, поле герба павінна быць блакітнага колеру, а леў залаты”[2].

У 1776 годзе Слонім страціў



Пячатка магістрата Слоніма, 1791-1793 г.

магдэбурскае права, якое было аднаўлена 25 лютага 1792 года спецыяльным прывілеем караля Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага. У ім не было ні слова аб вяртанні гораду старога герба. На новым жа знаходзілася толькі выява льва без стралы з двума крыжамі.

У той жа час пячатка магістрата Слоніма ўяўляла сабою льва, які трымаў у правай пярэдняй лапе стралу з двума крыжамі. Яна вядома ў адным

экземпляры — на лісце 1793 года, які засведчыў, што жыхар горада Мацей Пухоўскі быў пахаваны ў дамініканскім касцёле.




*Пячатка горада*
*(па М. Баліньскаму)*

Самай вядомай у літаратуры пячаткай Слоніма з'яўляецца выява, якая была апублікавана ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў кнізе "Старажытная Польшча" гісторыка М. Баліньскага. Для дадзенага выдання пячатку горада перамаляваў мастак В. Смакоўскі. Яе асаблівасцямі з'яўляецца тое, што літара N на ёй была павернута, літара E нанесена без "хвосціка". Гэтыя элементы былі зменены і мадэрнізаваны мастаком Ф. К. Мартыноўскім у другім выданні працы Баліньскага.

Яшчэ далей ад дадзенай выявы пячаткі Слоніма адышоў Т. Дмахоўскі. Ён зрабіў льва геральдычным, інакш прадставіў карону і стралу з крыжамі, а надпіс аддзяліў ад стылізаванага шчыта. Да таго часу, пакуль не будзе апублікавана арыгінальная пячатка горада, першая публікацыя Баліньскага застаецца найбольш верагоднай выявай пячаткі Слоніма такога кшталту. Хутчэй за ўсё яна выкарыстоўвалася ў XVIII стагоддзі, аднак да сённяшняга часу не выяўлена яе адбіткаў.




*Пячатка Слоніма*
*(па Т. Дмахоўскаму)*

Напрыканцы XVIII — у пачатку XIX стагоддзяў пасля ўключэння Слоніма ў склад Расійскай імперыі горад атрымаў новую пячатку. На ёй — леў, які глядзіць налева і трымае ў левай пярэдняй лапе ўзнятую стралу з двума крыжамі. Над львом знаходзілася карона.

Гістарычную сімволіку Слонім страціў у пачатку XIX стагоддзя, калі на пячатках слонімскай ратушы з'явіўся зацверджаны ў 1802 годзе Аляксандрам I новы герб Гродзенскай губерні — Пагоні і зубра, пад якімі знаходзіўся расійскі надпіс з двух радкоў: СЛОНИМ(СКОЙ) ГОРОД(ОВОЙ) / РАТУШИ.



*Пячатка Слоніма,*
*канец XVIII -пачатак XIX стст.*

6 красавіка 1845 года па загаду імператара Мікалая I у горада Слоніма з'явіўся новы сімвал: два крыжападобна пастаўленыя на эфесах мячы, паміж якімі змяшчалася дата - 1275 год. Такім чынам, сімвалічна падкрэслівалася ўваходжанне Слоніма ў часы князя Васілька Васлонімскага ў склад Галіцка-Валынскага княства, калі горад быў захоплены ў Вялікага княства Літоўскага. Акрамя таго, на выяве горада ў верхняй частцы адлюстроўваўся герб Гродзенскай губерні - зубр.




*Герб Слоніма, 1845 г.*

Рашэннем Слонімскага гарадскога выканаўчага камітэта ад 30 красавіка 1998 года ў якасці герба Слоніма быў зацверджаны яго гістарычны сімвал - «Ліс»: на блакітным полі шчыта адлюстраваны залаты леў на задніх лапах, павернуты ўправа, які трымае ў правай верхняй лапе герб «Ліс» - накіраваную ўверх срэбраную стралу.

Герб Слоніма з'яўляецца гісторыка-геральдычным помнікам Беларусі.

***Васіль Герасімчык***

---

1 .

Милаковский М. Описание города Слонима. Гродна, 1891, 30 с.

2. Цітоў А. Геральдыка беларускіх местаў (XVI — пачатак XX ст.). — Мінск: "Полымя", 1998, с. 76.

*Пры падрыхтоўцы артыкула выкарыстаны матэрыялы з кнігі Эдмундаса Рымшы "Pieczęcie miast Wielkiego księstwa Litewskiego".*

# Пра памылкі на мемарыяльным знаку




*Мемарыяльны знак каля капліцы святога Дамініка. Здымак, зроблены восенню 2015 года. Фота С. Ярша.*




*Касцёл, кляштар дамініканцаў, Дамініканская вуліца ў цэнтры Слоніма. Паводле плана горада 1823 года. Цяпер гэта плошча Леніна*

У 2002 годзе каля капліцы святога Дамініка (пабудаваная ў 1745 годзе) на скрыжаванні вуліц Пушкіна і Міцкевіча з'явіўся мемарыяльны знак. Надпіс на ім інфармуе, што на месцы стадыёна існавалі кляштар дамініканцаў і касцёл святога Міхаіла Арханёла, пабудаваныя ў 1680 годзе і знесеныя царскімі расійскімі ўладамі ў 1856 годзе. А гэта ж абсалютна не так!

Дамініканскі касцёл альбо касцёл св. Міхаіла знаходзіўся на цяперашняй плошчы Леніна. Яна з канца XVII стагоддзя называлася "плошчай перад дамініканскім касцёлам".[1] Там жа пазней з'явілася і Дамініканская вуліца. Гэты факт добра вядомы даследчыкам: і беларускім, і замежным[2]. І проста дзіўна, як арганізатары ўстаноўкі знаку не зазірнулі ў даступную літаратуру па тэме?!

На чым грунтаваліся іх веды? Магчыма, на "вуснай гісторыі", з якой трэба быць асцярожнымі. Аўтару гэтых радкоў у 1990-я гады даводзілася чуць ад аднаго ці двух старажылаў, што на месцы цяперашняга стадыёна "Юнацтва" калісьці быў каталіцкі кляштар, але перад вайной знаходзіліся агароды. Сапраўды, там была зямля, якая належыла дамініканцам. У іх быў сад, агароды, што відаць на планах горада першай паловы XIX стагоддзя. Але кляштара не было. Яго не маглі пабудаваць так далёка ад храма ды на неабароненай ускраіне горада (за капліцай святога Дамініка ўжо была вёска Апанасаўка). Як вядома, усе слонімскія каталіцкія храмы мелі кляштары побач, а не на значнай адлегласці. Таму на дамініканскай зямлі, каля былой Апанасаўскай вуліцы (цяпер — Пушкіна), маглі быць толькі жылыя дамы і гаспадарчыя пабудовы, якія належылі ордэну. Кляштар дамініканцаў знаходзіўся недалёка ад касцёла на цяперашняй плошчы Леніна. Дамініканцы паўтара стагоддзя валодалі значнай яе часткай, яна была абгароджана мураваным плотам. І толькі да 1856 года расійскія царскія ўлады знеслі ўсе гэтыя пабудовы.

Атрымліваецца, што мемарыяльны знак ужо 14 гадоў уводзіць у зман слонімцаў і гасцей горада, турыстаў, якія прыязджаюць з замежжа. Гэтая жахлівая памылка патрапіла і ў мясцовы друк. Адна зацемка так і называлася: "Мемарыяльны знак на месцы былога касцёла".[3] Падобную памылку даводзілася сустракаць нават у спартыўнай рэспубліканскай прэсе — не мясцовы журналіст пабываў на футболе, пабачыў капліцу, а каля яе знак і дадаў "штрышок" да свайго рэпартажу, нешта пра "стадыён на месцы касцёла". Ды і слонімцы паверылі ў гэтую легенду. У жніўні 2015 года Валерый Саладуха пісаў



*Фасад касцёла дамініканцаў. Малюнак І. Малевіча, 1846 г.*

у сваім блогу: “Можа, не таму нашы футбалісты амаль увесь час прайграюць, што ў іх кепскі трэнер ці гульцы не тыя, а таму, што стадыён, на якім трэніруецца каманда, пабудаваны на месцы храма?”[4]

І самае жахлівае, што памылка трапіла нават у навуковыя выданні! Ёсць цудоўная кніга Анджэя Цеханавецкага “Міхал Казімір Агінскі і яго “сядзіба музаў” у Слоніме”.[5] І вось не так даўно, пераглядаючы яе, на каляровай уклейцы натрапіў на фота ўжо добра знаёмага мемарыяльнага знаку, а пад ім подпіс: “Слонім. Памятны знак на месцы, дзе знаходзіўся касцёл св. Міхала Арханёла і кляштар дамініканцаў”... Адзначу, што гэта хіба не Анджэя Цеханавецкага, а беларускіх рэдактараў кнігі.

Такім чынам, маем праблему: што ж рабіць з мемарыяльным знакам? Адказ адназначны: яго трэба прыбіраць! І чым хутчэй, тым лепш. Сорамна не толькі за непраўдзівую інфармацыю на знаку, але і за недарэчныя памылкі ў беларускамоўным надпісу. Мемарыяльны знак, як памятку пра касцёл святога Міхала і дамініканскі кляштар, трэба ставіць там, дзе яны знаходзіліся — у цяперашнім скверы на плошчы Леніна. Толькі надпіс на ім мусіць быць праўдзівы і пісьменна выкананы.

***Сяргей Ёрш***


1. Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск: Навука і тэхніка, 1983, с. 53.

2. Гл.: Помнікі Слоніма, с. 14-15; Кулагін А. Каталіцкія храмы на Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя, 2000, с. 196; Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. Miasto Słonim. — Kraków, 2013, s. 149-152.

3. Газета Слонімская, 2002, № 36, 5-11 верасня.

4. Солодухо В. Город с лицом, но без души? // 2015, 24 жніўня; http://valer-a.bloger.by/48071/

5. Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго “сядзіба музаў” у Слоніме. — Мінск: Про Хрысто, 2006.




*Зямля дамініканцаў на месцы цяперашняга стадыёна “Юнацтва” на плане горада 1832 г.*

# З успамінаў пра даследаванні Жыровіцкай святыні

Гэты тэкст слонімскі краязнаўца, археолаг і паэт Васіль Супрун (1926 — 2007) перадаў мне ў канцы 2000 года для публікацыі ў квартальніку “Слонімскі край”. Але трэці нумар, у якім яго планавалася змясціць, ужо не выйшаў... На шчасце, ксеракопія рукапісу захавалася. Дагэтуль ён нідзе не публікаваўся. В. Супрун не ўключыў яго і ў самвыдатаўскую кнігу “Штрыхі з успамінаў” (Слонім, 2003). З гэтага нумару “СК” пачынае публікацыю гэтага тэксту.


З успамінаў пра даследаванні Жыровіцкай святыні

Не памятаю дакладна калі ўзнікла мая цікавасць да даследавання цудоўнага рэлігійнага і гісторыка-архітэктурнага помніка роднага краю — Жыровіцкай святыні. Яшчэ ў дзяцінстве я бываў тут даволі часта. Бо вёска Глоўсевічы, дзе я нарадзіўся і вырас, аддалена ад гэтага былога вядомага далёка за межамі Беларусі мястэчка ўсяго на 6-7 кіламетраў. На вялікія рэлігійныя святы мы кожны год бывалі тут з бацькамі і сябрамі. У дзіцячай памяці зафіксавана нямала цікавых малюнкаў і падзей з таго, цяпер ужо далёкага мінулага, калі святыя мясціны гэтыя збіралі з блізкага і далёкага наваколля тысячы вернікаў. Тады не думалася нават, што калісьці старыя муры гэтыя прыцягнуць маю ўвагу, як даследчыка-краязнаўца...

Прайшлі дзесяцігоддзі. Змянілася навокал многае, змяніўся бясспрэчна і я. А святыя муры гэтыя — сведкі майго юнацтва — засталіся амаль нязменнымі. Толькі людзі сталі прыходзіць сюды не так званымі „крэснымі ходамі”, з харугвамі, абразамі і крыжамі, не з царкоўнымі спевамі, а хаваючыся ад людскога вока, крадучыся. Але прыходзілі...

Склалася меркаванне, што да казацкай навалы (1655 г.), калі Жыровічы былі моцна разбураны, Успенскі сабор меў на галоўным фасадзе дзве вуглавыя вежы, асновы якіх можна прасачыць і цяпер. Відаць яны былі разбураны гарматнымі абстрэламі. Пацярпелі і купал над інтэр'ернай часткай храма. Меліся прабоіны і ў сценах склепеннях. На гравюрнай выяве XVIII ст. храм ужо меў не першапачатковы выгляд, ~~меў~~ не пяць вежаў а толькі тры.

Пры даследаванні так званага жылога корпуса манастыра, у яго ўсходнім тарцы ўдалося выявіць старажытнае адначасовае збудаванне тыпа родзіцкай царквы з цікавай унікальнай фасаднай лепкай. А ў заходнім крыле — рэшткі недабудаванага каталіцкага касцёла. Згаданыя аб'екты, напэўна, таксама былі моцна пашкоджаны. У пазнейшы час яны былі ўключаны ў агульнае збудаванне жылога корпуса.

Муры корпусоў былой духоўнай семінарыі і ўпраўлення епіскапа таксама будаваліся ў розны час і былі раздзелены, як асобныя аб'екты, хоць цяпер уяўляюць адзіны комплекс.

1999 г. Васіль Супрун

Ва ўспамінах няма падрабязнага апісання даследаванняў Жыровіцкай святыні — справаздачы Супрун перадаваў у Акадэмію навук. Затое мы можам адчуць атмасферу таго часу — пачатку 1960-х гадоў. У БССР ішла антырэлігійная кампанія, зачыняліся і нават знішчаліся цэрквы, у Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах практычна не засталося выхаванцаў — улады мэтанакіравана зрывалі наборы, і ў 1963 годзе яе зачынілі.

***Сяргей Ёрш***


*Васіль Супрун*

Не памятаю дакладна, калі ўзнікла ў мяне цікавасць да даследавання цудоўнага рэлігійнага і гісторыка-архітэктурнага помніка роднага краю — Жыровіцкай святыні. Яшчэ ў дзяцінстве я бываў тут даволі часта. Бо і вёска Глоўсевічы, дзе я нарадзіўся і вырас, аддалена ад гэтага былога вядомага далёка за межамі Беларусі мястэчка ўсяго на 6-7 кіламетраў. На вялікія рэлігійныя святы мы кожны год бывалі тут з бацькамі і сябрамі. У дзіцячай памяці зафіксавана нямала цікавых малюнкаў і падзей з таго, цяпер ужо далёкага мінулага, калі святыя мясціны гэтыя збіралі з блізкага і далёкага наваколля тысячы вернікаў. Тады не думалася нават, што калісьці старыя муры гэтыя прыцягнуць маю ўвагу, як даследыка-краязнаўца...

Прайшлі дзесяцігоддзі. Змянілася навокал многае, змяніўся бясспрэчна і я. А святыя муры гэтыя — сведкі майго юнацтва — засталіся амаль нязменнымі. Толькі людзі сталі прыходзіць сюды не з так званымі “крэснымі хадамі”, з харугвамі, абразамі і крыжамі, не з царкоўнымі спевамі, а хаваючыся ад людскога вока, крадучыся. Але прыходзілі...

У краі панавала савецкая ўлада, бязбожніцтва, лютая варожасць да святынь і веры. Па вёсках разбураліся і зняважаліся храмы. За веру праследаваліся людзі, асабліва моладзь. Але Жыровіцкая святыня жыла, нібы магутная цытадэль між зруйнаванага стыхіяй краю.

Даследуючы археалагічныя, гістарычныя і архітэктурныя помнікі на аснове выданых Акадэміяй навук Беларусі і Міністэрства культуры дакументаў, я звярнуў увагу на Жыровіцкі архітэктурны комплекс, як на выдатны гістарычны помнік краю. Папярэдне пазнаёміўся з даступнымі гістарычнымі публікацыямі, якія аказаліся вельмі павярхоўнымі. Асобныя звесткі былі раскіданы па нешматлікіх царкоўных выданнях і задавальнялі мяне мала. Помнік пажадана было даследаваць комплексна: вывучаючы публікацыі і дакументы, і знаёмячыся з аб’ектамі непасрэдна. А для гэтага неабходна пранікнуць на тэрыторыю святыні, якая была па-свойму абмежаванай для пабочных асоб. Тут існаваў і Жыровіцкі праваслаўны манастыр з абмежаванай колькасцю манашак і манахаў. Было і сваё духоўнае кіраўніцтва на чале з архімандрытам Канстанцінам. З яго і патрэбна было пачынаць знаёмства. Дзе і як можна спаткацца з блажэнным айцом архімандрытам мне падказала вахцёрша, папярэдне распытаўшы пра прычыну візіту і ўзгадніўшы ўсё з самым Канстанцінам. Аказалася, што айцец архімандрыт жыў у манастырскім інтэрнаце на тэрыторыі святыні. Калі я



*Від на Жыровіцкую святыню з манастырскага саду. 1960 г. Фота Васіля Супруна*

пастукаў у дзверы, ён ужо чакаў мяне і сустрэў вельмі ветліва, але асцярожна. Я, разумеючы ўсё, стараўся растлумачыць прычыну свайго візіту і распавёў аб сабе, што нарадзіўся і вырас паблізу Жыровіч, што хацеў бы даць у друк гістарычны нарыс аб святыні, а магчыма і выдаць асобны ілюстраваны буклет-памятку.

Айцец Канстанцін — сівенькі, хударлявы, прыгожы і ветлівы, даволі здаровы мужчына — адабраючы паківаў галавою і паведаміў, што ён не з'яўляецца тут гаспадаром, а толькі намеснікам. Усімі справамі кіруе ўладыка мітрапаліт мінскі і ўсёй Беларусі свяцейшы Антоній*, які жыве ў Мінску, але ў Жыровічах бывае часта і жыве тут па некалькі дзён. Толькі яго дазвол і згода патрэбны, каб я мог праводзіць тут нейкія даследаванні. Ён паабяцаў аб усім паведаміць мітрапаліту і прасіў наведвацца. Вельмі асцярожна сказаў, што ўладыка і сам цікавіцца мінулым святыні і што ён вельмі дасведчаны чалавек.

Праз нейкі час я даведаўся, што ўладыка Антоній Мельнікаў прымаў удзел у дзяржаўнай місіі дэлегацыі СССР у Індыі. І праз пэўны прамежак часу (наведваючы Жыровічы амаль кожны тыдзень) айцец Канстанцін паведаміў, што ён меў гутарку з уладыкам і той, нібы, зацікавіўся мной, пагадзіўся нават на сустрэчу і дазволіў аглядзець збудаванні манастыра. Шаноўны архімандрыт прызнаўся, што ўладыка падараваў яму адзін з экземпляраў машынапіснага рукапісу пра Жыровічы і ён зможа даць яго хоць на некалькі дзён для азнаямлення. Я падзякаваў шчыра. Гэта была даволі аб'ёмістая праца, названая "Жировицкий монастырь в истории западнорусских епархий. (Рукопись). Одесса, 1954".

Рукапіс, напісаны ў багаслоўскім стылі, прыводзіў нямала вытрымак з царкоўнай літаратуры мінулых стагоддзяў, дзе ўспаміналіся Жыровічы і цудатворчы абраз Маці Божай Жыровіцкай, названы некалькі дакументаў і гістарычных фактаў, паведамляецца легенда аб заснаванні святыні і пазнейшых цудах. Згадваецца і аб служыцелях царквы, якія працавалі над зборам дакументаў і матэрыялаў па гісторыі святыні (пра архіепіскапа Антонія Зубко, архімандрыта Мікалая Рэдуто і інш.). На жаль, усё сабранае імі і да іх апынулася за межамі Беларусі, часткова ў Санкт-Пецярбурзе і іншых чужых сховах.

*(працяг у наступным нумары)*

***Васіль Супрун***

---

*Мітрапаліт Антоній (Анатоль Мельнікаў, 1924 — 1986) — ураджэнец Масквы. У 1956 годзе быў архімандрытам, яго прызначылі рэктарам Мінскай духоўнай семінарыі і намеснікам Жыровіцкага манастыра. З восені 1963 года служыў ва Украіне. З траўня 1965 года быў епіскапам Мінскім і Беларускім, архімандрытам Жыровіцкага манастыра.



*Мітрапаліт Антоній*
*Крыніца: wikipedia.org*

Праз некалькі месяцаў стаў архіепіскапам, а мітрапалітам толькі ў верасні 1975 года. 6 кастрычніка 1964 года абараніў дысертацыю ў Маскоўскай духоўнай акадэміі на навуковую ступень магістра багаслоўя па тэме "Жыровіцкі манастыр у гісторыі заходніх рускіх епархій". Памёр у Ленінградзе. — ***"СК"***.

# Калі Слонім акупавалі польскія войскі ў 1920 годзе?

Чытаючы на сайце "Слонімскага весніка" матэрыял Ігара Пракоф'ева "Год культуры ў датах", звярнуў увагу на прыкрую памылку. Ён піша, што Слонімшчына была акупаваная палякамі "27.11.1920 г."[1] Насамрэч адбылося гэта на два месяцы раней — 27 верасня 1920 года.

Адкуль з'явілася гэтая памылка? Высвятляецца, што І. Пракоф'еў не першы, хто яе дапусціў. Наш зямляк, гісторык Васіль Мялешка яшчэ ў 1962 годзе ў кнізе, прысвечанай гісторыі нашага горада, выкарыстаў памылковую дату "27 лістапада".[2] Амаль праз два дзесяцігоддзя яе паўтарыла Ірына Шпыркова, колішні дырэктар Слонімскага краязнаўчага музея імя Я. Стаброўскага, і таксама ў кнізе "Слонім".[3] А вось у артыкуле ў кнізе "Памяць" яна памылку выправіла і напісала, што палякі занялі Слонім 27 верасня 1920 года[4]. Праўдзівую дату можна знайсці і ў кнізе Васіля Супруна "Дзеі над Шчарай".[5]

Дзякуючы праведзенаму "расследаванню", удалося высветліць, што памылковая дата ўпершыню з'явілася ў кнізе слонімскага гісторыка Годэля Гольдберга[6]. В. Мялешка, працуючы над сваёй кнігай, карыстаўся гэтым выданнем і, відаць, "пазычыў" дату, не спраўдзіўшы яе ў іншых крыніцах.

Цяпер, калі мы ведаем, што дата "27 лістапада 1920 года" ў якасці пачатку польскай акупацыі Слоніма памылковая, і ведаем, адкуль з'явілася памылка, трэба зрабіць усё, каб яна больш не трапляла ні ў навукова-папулярныя выданні, ні ў мясцовую прэсу.

***Сяргей Ёрш***

1. Прокофьев И. Год культуры в датах // Слонімскі веснік, 2016, 12 студзеня; http://www.slonves.by/2016/01/god-kultury-v-datax/
2. Мелешко В. Слоним (исторический очерк). — Минск: Госиздат БССР, 1962, с. 27.
3. Рылко М., И. Шпыркова. Слоним: историко-экономический очерк. — Минск: Беларусь, 1981, с. 19. Главу "Под красным знаменем" написала якраз І. Шпыркова.
4. Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск: БЕЛТА, 2004, с. 153.
5. Супрун В. Дзеі над Шчарай (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000, с. 92.
6. Goldberg G. Zarys dziejów miasta Słonima. — Słonim, 1934, s. 43.




*На сайце "Камуніката" можна знайсці і краязнаўчы бюлетэнь "Слонімскі край".*

## ПОШТА

Пасля выхаду ў свет першага нумару "СК" на рэдакцыйную пошту пачалі прыходзіць лісты ад нашых чытачоў. І не толькі са Слоніма, але і з іншых гарадоў краіны ды з замежжа, куды лёс закінуў слонімцаў. Пенсіянер **Міхаіл Аляксандравіч С.** з Барысава піша, што ён ураджэнец Паўлаўскага сельсавета. Хоць і жыве далёка, але штогод наведвае родны горад, каб сустрэцца з роднымі, сябрамі, аднакласнікамі, каб наведаць магілы бацькоў: "Мне неабыякавы лёс Слоніма, яго гісторыя і будучыня".

**Віктар Б.** піша: "Вялікі дзякуй за Ваш унёсак у справу папулярызацыі гісторыі і краязнаўства роднага куточка!" **Юрый В.** жыве ў Брэсце, але бывае ў Слоніме, калі едзе да сваякоў на Навагрудчыну. "Падабаецца мне ваш горад", — піша наш чытач, які цікавіцца гісторыяй, быў знаёмы з Васілём Супруном.

Адгукнуўся на выхад першага нумару "СК" **Уладзімір Васільевіч К.** Дзякуем яму за добрыя словы. Падобных кароткіх лістоў з падзякамі было нямала. Будзем імкнуцца і надалей радаваць чытачоў артыкуламі з нашай "рэдакцыйнай шуфляды". У "СК" з'явяцца новыя рубрыкі, матэрыялы на самыя нечаканыя тэмы.

Радуе, што пішуць слонімскія настаўнікі. Распавядаюць, што выкарыстоўваюць артыкулы з першага нумару, знаёмяць з імі вучняў.

Віталі з'яўленне "Слонімскага краю" нашыя калегі з мінскай **"Краязнаўчай газеты"**. Безумоўна, будзем супрацоўнічаць і надалей з галоўным беларускім краязнаўчым выданнем.

***Рэдакцыя***

*slonimskikraj@gmail.com*

# Малы Агінскі канал




У 1768 — 1784 гадах у Слонімскім павеце быў ажыццёўлены праект воднага шляху, які злучыў Шчару з Ясельдай, а праз іх — Нёман з Прыпяццю, і тым самым адкрываў дарогу ад Чорнага мора да Балтыйскага. Яго будаўніцтва было здзейснена на сродкі гетмана Вялікага княства Літоўскага, уладальніка слонімскага староства Міхала Казіміра Агінскага (1728 — 1800).

Канал даўжынёй у 54 км каштаваў 12 млн злотых (у той час уся маёмасць Агінскага ацэньвалася ў 14 млн злотых) і быў сапраўдным гідратэхнічным цудам свайго часу. Першапачаткова яго называлі Вялікім Пінскім ці Целеханскім каналам, або Портам Агінскага. Важнейшым портам на гэтым шляху стаў Слонім.

У горадзе ў гэты час вяліся працы па асушэнню багністых глебаў паабапал Шчары і выпростванню яе рукава ў межах горада. Пазней гэты кавалак ракі атрымаў назву Малы Агінскі канал, даўжынёй 1054 м, своеасаблівая мініяцюрная копія асноўнай воднай магістралі. Першапачатковая мэта яго яскрава падкрэслівалася ў наяўнасці тут “плаваючага тэатра”, спраектаванага гетманам для летніх пастановак, у якім у 1771 годзе былі паказаны некалькі опер і камедый.

У Слоніме была пабудавана прыстань, на якой разгружаліся і загружаліся плыты, чайкі (баркі) і лодкі.

Напрыканцы існавання Рэчы Паспалітай Агінскі канал прыходзіць у заняпад. Пасля ж уваходжання Беларусі ў склад Расійскай імперыі, новыя ўлады пачынаюць працы па яго аднаўленні. У 1799 — 1804 гадах яго рамантавалі, умацавалі ўзбярэжжа і Малога Агінскага канала.

У 1836 годзе праз Агінскі канал было правезена тавараў на паўтары мільёны рублёў. Акрамя дрэва, гэта былі: соль, пшаніца, жыта, авёс, льняное семя, воцат, гарох, гліняны і фаянсавы посуд, шкло, цэгла, тытунь, якія ішлі на экспарт, а прывозілі шоўк, віно, жалеза і вырабы з каштоўных металаў.

У сувязі са скарачэннем плошчаў лясоў на Палессі і Валыні, зменшыліся яго пастаўкі праз Агінскі канал у Коўна і Кёнігсберг. Адначасова павялічваецца колькасць збожжа (хлеба), якое сплаўлялася каналам на Захад. Аднак залежнасць ураджаяў ад прыродных умоваў адмоўна адбівалася на тэмпах развіцця гандлю на Агінскім канале, і адпаведна колькасці суднаў і плытоў, якія праходзілі праз Слонім. А ў 1870-80-я гады роля Агінскага канала паступова змяншалася ў сувязі з будаўніцтвам чыгункі ў Беларусі.

Пасля заканчэння Першай сусветнай і савецка-польскай вайны тэрыторыя Заходняй Беларусі апынулася ў складзе Другой Рэчы Паспалітай. Актыўныя ваенныя дзеянні ў рэгіёне прывялі да значных разбурэнняў, якія закранулі таксама водныя шляхі зносін. У верасні 1915 года ў Слоніме адбываўся артылерыйскі бой паміж нямецкімі і расійскімі войскамі, у выніку якога была знішчана забудова слонімскага Замосця і прыстань Малога Агінскага канала. Яна была адноўлена толькі вясной 1932 года і адышла пад кіраванне Марской і каланіяльнай лігі (існавала такая польская



арганізацыя ў той час, у Слоніме было яе аддзяленне). На канале пабудавалі яшчэ дзве іншыя прыстані: 79-га і 80-га палкоў пяхоты, раскватараваных у Слоніме. Малы Агінскі канал ператвараецца ў цэнтр развіцця вяслярства.



На слонімскіх прыстанях знаходзіліся каля 200 байдарак, што не складала, па словах краязнаўцы Валяр'яна Харкевіча, "нават і паловы той агульнай колькасці, якой валодаюць сланімчане". У горадзе ўзнік клуб весляроў пад кіраўніцтвам Аліны Міхальскай, жонкі бурмістра горада і старшыні Марской і каланіяльнай лігі, сябра слонімскага аддзялення Польскага краязнаўчага таварыства, інжынера Казіміра Міхальскага.

Адначасова з развіццём вяслярства, Слонім выкарыстоўваўся веслярамі-краязнаўцамі, як адзін з важнейшых пунктаў воднага шляху з Піны да Аўгустоўскага канала, ажыццяўляючы, у значна меншай ступені, ідэю гетмана Агінскага, які марыў бачыць горад важным пунктам на вялікім водным шляху. У 1932 годзе за перыяд з 10 чэрвеня па 17 жніўня на прыстані МіКЛ зарэгістравалася больш за 30 экскурсій. Сярод іх былі нават некалькі паездак са Львова — абітурыентак гімназіі сясцёр-базыльянак (5 дзяўчат і дырэктар гімназіі) і экскурсія сяброў секцыі воднага турызму Яўрэйскага кола аматараў краязнаўства; падарожжа двух сяброў нямецкага Клуба краязнаўцаў ў Катавіцах, быдгашчан — ад Бярозы Картузскай да мора, экскурсія кракаўскай Акадэмічнай спартыўнай асацыяцыі (з Кракава і да Кракава). Але найбольш цікавым і найдаўжэйшым (таму што ўключаў у сябе 4200 км) з'яўляўся тур двух жыхароў Познані (Х. Матысяк і Е. Сено), якія на байдарках прайшлі амаль усю Рэч Паспалітую, адправіўшыся з Кракава і заканчваючы свой шлях у Познані.

Падчас Другой сусветнай вайны Агінскі канал зноў прыходзіць у заняпад. У 2-й палове XX стагоддзя ўлады не бачылі магчымасцяў для яго эканамічнага выкарыстання.

На сённяшні дзень Малы Агінскі канал знаходзіцца ў цяжкім становішчы і мае патрэбу ў аднаўленні драўляных свай паабапал берага, якія праступаюць над узроўнем вады і ў выніку схільныя да гніення. Да таго ж старое рэчышча Шчары забалочана і мае патрэбу ў ачышэнні.

У студзені 2016 года ў горадзе пачало дзейнічаць грамадскае аб'яднанне "СлонімКаналАгінскага". Яго кіраўніком з'яўляецца былы старшыня Слонімскага гарсавета Іван Паўлавіч Вадэйка. Сярод яго мэтаў — кансалідацыя высілкаў усіх зацікаўленых у адраджэнні гістарычнага, архітэктурнага аблічча Слоніма, садзейнічанне ў рэканструкцыі, добраўпарадкаванні і захаванасці канала Агінскага ў горадзе, а таксама старога рэчышча ракі Шчара і прылеглых да яго тэрыторый.

***Васіль Герасімчык***



*Кнігі пра Слонім*

# Першы даведнік, прысвечаны Слоніму

*З гэтага нумару мы пачынаем публікацыю аглядных матэрыялаў пра кнігі, прысвечаныя гісторыі Слоніма і Слонімшчыны, якія выдаваліся на працягу XIX-XX стагоддзяў. Будзем намагацца адшукаць самыя рэдкія выданні, якія на сённяшні дзень захаваліся толькі ў адзінкавых асобніках.*

*Милаковский М. Описание города Слонима. Гродна. Типография Губернского Правления, 1891. 30 с.*




У 1891 годзе ў Гродне пабачыла свет кніга М. Г. Мілакоўскага* "Описание города Слонима", якая мае характар даведніка, адрасаванага перш за ўсё яго наведвальнікам. У аснову выдання былі пакладзены звесткі, якія прыводзяцца ў творах польскіх гісторыкаў Т. Нарбута, М. Балінскага і Т. Ліпінскага, а таксама рускіх — П. В. Баброўскага, П. Д. Бранцава, М. В. Каяловіча, П. М. Бацюшкава, у зборніках археаграфічных дакументаў і часопісе "Вестник Западной России".

Кніга пачынаецца геаграфічным апісаннем Слонімшчыны, размешчанай у рэчышчы Шчары. Затым даецца гістарычны нарыс. У якасці адліку гісторыі Слоніма М. Мілакоўскі прыводзіць некалькі падзей: 1) 1040 г., калі адбылася бітва на слонімскіх палях; 2) X ст. — "Слонім быў тады ўмацаваны і належыў Тураўскім князям"; 3) час паходаў Уладзіміра Чырвонае Сонейка на літоўскія плямёны, калі Слонім быў адным з умацаваных гарадоў на мяжы Кіеўскай Русі.

Найбольшую цікавасць у творы Мілакоўскага ўяўляе апісанне Слоніма ў XIX стагоддзі, калі ён з'яўляўся тыповым павятовым горадам заходняй часткі Расійскай імперыі, аснову насельніцтва якога складалі яўрэі. Аўтар канцэнтруе ўвагу на цяжкіх умовах, у якіх жыў горад, а таксама характарызуе занняткі гараджан, у першую чаргу звязаныя з камерцыяй: "Гандлем займаецца ці ледзь не палова яўрэйскага насельніцтва горада і ў сутнасці дробязны гандаль капеечны, і трэба дзівіцца той цягавітасці, з якою гэтыя дробныя крамнікі праседжваюць у сваіх крамках па цэлых днях, склаўшы рукі. Не будзь кірмашовых дзён, тут (кірмашовыя дні бываюць па нядзельных і святочных днях), дакладна, ім бы з голаду памерці".

М. Мілакоўскі падае асноўныя падзеі і прозвішчы з гісторыі горада, найбольшую ўвагу надаючы таму, што можна пабачыць у Слоніме на прыканцы XIX стагоддзя. Распавядае пра вучэбныя ўстановы, выданні, якія выпісваюць і чытаюць слонімцы, стан храмаў, вуліц, супрацьпажарнай і медыцынскай бяспекі.

Кніга М. Мілакоўскага стала першым самастойным даведнікам па Слоніме і ўяўляла сабою першую спробу аўтара стварыць выданне такога характару, ва ўсёй сваёй паўнаце рэалізаванае ім у другой яго кнізе, выдадзенай шасцю гадамі пазней — "Очерк Белостока в историческом, этнографическом и бытовом отношениях" (Кіеў, 1897).

**Васіль Герасімчык**

*Пра асобу гэтага даследчыка практычна нічога невядома. Мы не ведаем нават яго імя. Акрамя згаданых двух кніг была выяўленая яго публікацыя ў газеце "Страховое обозрение" (Санкт-Пецярбург) — Милаковский М. Г. Материалы для страховой географии. XIV. Слоним, Гродненской губернии (1891, № 8). Яшчэ ён выдаў, як мінімум, адну паштоўку, прысвечаную Беластоку. У Слоніме ў Мілакоўскага маглі быць сваякі (магчыма, ён і сам нейкі час жыў у нашым горадзе). У кнізе пра Беласток была змешчаная рэкламная аб'ява (ст. 137) пра краму футравых і суконных тавараў нейкага Л. Мілакоўскага, якая знаходзілася ў Слоніме на Парадной вуліцы (цяпер — Першамайская, яе ніжэйшая частка) ў доме Рыжына.

На сайце Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Карскага даступная адсканаваная версія кнігі Мілакоўскага. На жаль, не цалкам, а толькі некалькі старонак: http://www.grodnolib.by/media/file/binary/2012/8/17/180008559939/mf1207_pdf.pdf?srv=cms

# Станіслаў Лорэнц падрыхтаваў унікальную кнігу пра Слонім

*Lorentz St. Wycieczki słonimskie. Krótki przewodnik krajoznawczy po Słonimie oraz Albertynie, Byteniu, Dereczynie, Mereczowszczyźnie, Różanie, Synkowiczach, Zdzięciole i Żyrowicach. Słonim: Nakladem Oddziału Słonimskiego Polskiego Towarzystwa Krajoznawczego, 1933. 39 s.*




У 1933 годзе ў Слоніме выйшла з друку невялікага памеру кніжачка на польскай мове “Wycieczki słonimskie” (“Слонімскія вандроўкі”). Яе напісаў тады малады 34-гадовы польскі музеязнавец, гісторык мастацтва Станіслаў Лорэнц.

Гэта было ўнікальнае выданне, якое ўяўляла сабой кароткі даведнік па краязнаўстве тагачаснага Слонімскага павета. Аўтар цікава апісаў Слонім, Альбярцін, Дзярэчын, Быцень, Мерачоўшчыну, Ружаны, Сынковічы, Дзятлава і Жыровічы. У кніжачцы змешчаны дзясятак фотаздымкаў, найбольш тых, на якіх адлюстраваны Слонім, Жыровічы, Сынковічы і Дзярэчын. Ёсць у старым выданні і цікавы партрэт Аляксандра Солтана, які быў выкананы ў 1913 годзе мастаком Вацлавам Вейткам паводле старажытнага малюнка, які захоўваўся ў Жыровічах. Партрэт таго Солтана, які быў уладальнікам Жыровічаў у канцы XV стагоддзя і пабудаваў драўляны храм на месцы, дзе пастушкі знайшлі ў лесе цудоўны абразок Божай Маці.

Кніжка “Wycieczki słonimskie” Станіслава Лорэнца была выдадзена Слонімскім аддзелам Польскага краязнаўчага таварыства. Была тады ў Польшчы такая арганізацыя, якая шмат зрабіла дзеля гісторыі сваёй Бацькаўшчыны. Яна і цяпер у Польшчы існуе, а вось у Беларусі, на вялікі жаль, падобнага краязнаўчага таварыства няма.

А цяпер некалькі слоў пра аўтара кнігі “Wycieczki słonimskie” Станіслава Лорэнца. Вялікі польскі гісторык, краязнавец і музеязнавец пражыў доўгае жыццё — 92 гады. Ён нарадзіўся ў 1899 годзе, а памёр у 1991-м. Сваю прафесійную кар’еру Лорэнц пачаў у даваенны перыяд, у 1929-1935 гадах працаваў рэстаўратарам помнікаў Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў. Вось тады, жывучы ў Слоніме, ён і напісаў даведнік па Слонімскім павеце. Пасля адмаўлення ад пасады рэстаўратара, Станіслаў Лорэнц працаваў выкладчыкам Віленскага універсітэта. У 1935-1982 гадах (з перапынкам у часе Другой сусветнай вайны) быў дырэктарам Нацыянальнага музея ў Варшаве, фонды якога ў



*Станіслаў Лорэнц*

значнай ступені ўзбагаціў, часта за кошт правінцыйных музейных устаноў. У час нямецкай акупацыі славуты гісторык вызначыўся ў акцыі ратавання шэдэўраў польскай культуры. У пасляваенны час ён узначальваў Дырэкцыю музеяў і аднаўлення помнікаў, стаў прафесарам Варшаўскага ўніверсітэта, чальцом Польскай акадэміі навук, дэпутатам парламента, экспертам ЮНЕСКА па справах аховы помнікаў.

Станіслаў Лорэнц таксама быў сябрам шматлікіх замежных навуковых арганізацый і таварыстваў, аўтарам каля 300 навуковых прац па гісторыі мастацтва, музейнай і рэстаўратарскай справах. Меў дзяржаўныя ўзнагароды.

Адзначу, што кніга С. Лорэнца “Wycieczki słonimskie” даступная ў інтэрнэце:

http://www.tnp.org.pl/ZbiorySpecjalne/2011/Lorentz%20Stanislaw.%20Wycieczki%20slonimskie.%20Slonim%201993.pdf

***Сяргей Чыгрын***

*Знаходкі*

# Невядомая казка Гальяша Леўчыка



*Гальяш Леўчык у апошнія гады свайго жыцця ў Варшаве*

Нядаўна высветлілася, што слонімскі паэт, перакладчык, грамадскі актывіст, калекцыянер, музыкант і мастак Гальяш Леўчык (сапраўднае прозвішча Ляўковіч, 1880 — 1944) спрабаваў пісаць казкі. Адзін такі твор на старонках польскамоўнага выдання “Gazeta Słonimska” за 1938 год мы знайшлі разам з Сяргеем Яршом, калі рыхтавалі кнігу пра гісторыю слонімскага перыядычнага друку. Называецца ён “Zimowa bajka” (“Зімовая казка”), падпісаны крыптанімам El. Што менавіта напісаў яе Гальяш Леўчык, упэўненасці на сто працэнтаў няма. Але ж...

“GS” выдаваў беларускі паэт Сяргей Новік-Пяюн разам з жонкай Людмілай (на яе было аформлена выданне і яна лічылася рэдактарам). Можна меркаваць, што мясцовая польская інтэлігенцыя не падтрымала гэты польскамоўны беларускі праект (выдаваць газету на беларускай мове палякі не дазвалялі). На каго ж тады маглі спадзявацца Новікі? Толькі на сваіх добрых сяброў з ліку мясцовых беларусаў — на Язэпа Стаброўскага (яго артыкул быў у адным з нумароў), на Гальяша Леўчыка. Апошні па-польску падпісваўся: “E. Lewkowicz”, “Eliasz Lewkowicz”. Таму крыптанім El. можа быць скаротам яго імя, а можа быць і яго ініцыяламі. Шчыры і сумленны Гальяш Леўчык, які пісаў заўсёды па-беларуску (выключэнне — польскамоўныя палемічныя творы на старонках віленскага выдання “Przegląd Wileński”), мог адгукнуцца на просьбу свайго сябра-слонімца Новіка-Пеюна напісаць нешта ў калядны нумар. Так і нарадзілася цудоўная казка. Чытаючы яе, знаходзім яшчэ адзін доказ аўтарства Гальяша Леўчыка. Ён вельмі любіў музыку, гітару. І тут Ірынка іграе якраз на “сярэбраных струнах гітары”.

Прапаную невядомы раней твор Гальяша Леўчыка чытачам “Слонімскага краю”. “Зімовую казку” на беларускую мову пераклаў Віталь Луба.

***Сяргей Чыгрын***

## Зімовая казка

У белым доміку жыла малая дзяўчынка. Называлі яе Ірынка. Валасы былі ў яе цёмныя і бліскучыя, а вочы такія сінія, быццам неба вясною.

Калі раніцай засвяціла сонейка, у пакой Ірынкі заляцелі яго ясныя прамяні і разбудзілі яе. А тады са срэбранага агарода, зачараванага на замёрзлых шыбах, да Ірынкі прыплывала залатая каралева Радасць.

Сядала побач каля яе на ложачку і белай ручкай песціла тварык Ірынкі.

Расказвала ёй каралева Радасць, як цудоўна на свеце. Паказвала ёй сад, спавіты белам снегам, як пераліваецца ў сонцы мільёнамі іскрынак, як белая пуховая гронка ціха падае на дробныя кусцікі, а ўсё так блішчыць беллю, што сэрца радуецца і прарываецца да жыцця.

А вочы ў Ірынкі блішчалі як зоркі. Ускоквала з ложачка і бегла за каралевай Радасць прывітаць дзень. Тут жа прыбег да Ірынкі малы белы эльф Смех і ўвесь дзень не адыходзіў ад яе. А калі, урэшце, сонейка хілілася да захаду, а неба станавілася ўсё больш цёмным, Ірынка лягла спаць. Тады з далёкіх зорак сплывала да яе ложачка варажбітка Даверлівасць. Апранутая ў срэбную сукню, сядала каля Ірынкі і соладка спявала для яе калыханкі. Ірынка, слухаючы песні варажбіткі Даверлівасці, ціхенька засынала.

Ірынка часта брала сваю гітару і іграла. Сіні Змрок ахінаў сваім далікатным плашчом снег, супакойваў гучнае цвырканне вераб’ёў і ціха падкрадаўся да

вакон. З-пад пальчыкаў Ірынкі плыла цудоўная мелодыя. Тады прыходзіла да Ірынкі каралева Казка, ахінала яе сваім зорным плашчом і вяла ў сваю Казачную краіну.

Аднойчы Ірынка іграла на змяркканні, а ў акно зазіраў цікавы месяц.

Каралеўна Казка шаптала ёй дзівосы. Ірынка іграла, слухаючы Казку. І тады па сярэбранай стужцы месяца да Ірынкі сплыла спакойная прынцэса Мара. Мяккімі рукамі абняла шыю Ірынкі і павяла яе па месячнай стужцы, павяла да зоркаў у сінюю даль. Паказала ёй свой свет і Ірынка палюбіла прынцэсу Мару.



Zimowa bajka.

W białym domku mieszkała mała dziewczynka. Nazywała się ona Irka. Włosy jej były ciemne i lśniące, a oczy takie błękitne, jak niebo na wiosnę.

Gdy rano zaświeciło słonko, do pokoju Irki wpadały jego jasne promienie i budziły ją.

Затуманіліся ад смутку вочы каралевы Казкі. Ірынка неахвотна ішла ў яе краіну, больш любіла краіну прынцэсы Мары. Бліснулі зоркі на плашчы каралевы Казкі. Казка знікла. Цяпер, калі Ірынка брала гітару і іграла, пры ёй была прынцэса Мара.

Аднойчы з'явіўся Ён. Прыйшоў аднекуль здалёк... Вочы яго глядзелі на Ірынку, ягоныя вусны смяяліся да яе. Ён прасіў, каб Ірынка яму іграла. І яна іграла. З-пад яе пальчыкаў паплыла цудоўная мелодыя, такая, якой ніколі дагэтуль Ірынка не іграла.

Здзівілася прынцэса Мара, здзівіўся блакітны эльф Спакой, бо ніколі не чулі падобнай мелодыі. Спакой страсянуў залатымі крыламі і хутка адляцеў. А Ірынка іграла. На гукі гэтай мелодыі прачнулася каралева Любоў. Прыйшла ціха, сярэбраным шалем ахінула постаць Ірынкі. А раніцай каралева Радасць не магла разбудзіць Ірынку. Адышла тады засмучаная, забіраючы свае залатыя блёскі. Але шкада ёй было Ірынкі. Паслала тады да яе свайго брата князя Шчасце. І калі прамяністы князь Шчасце зайграў на флейце, Ірынка расплюшчыла вочы і прывітала дзень.

Але аднойчы Ён не прыйшоў. Кудысьці з'ехаў. Доўга іграла Ірынка на сваёй гітары! З-пад яе пальчыкаў плыла сумная мелодыя, быццам скарга, быццам плач. І з гукаў гэтай мелодыі ўсплыў маленькі шэры Смутак. А Ірынка іграла. Прынцэса Мара дарэмна клікала яе ў сваю краіну. Знікла тады. Ірынка засталася адна. Смутак узрастаў, станавіўся штораз больш магутным. Шэрымі крыламі ахінуў ён Ірынку. Затуманіліся ясныя вочы Ірынкі і, як бурштынкі, пакаціліся слёзкі. А гітара ўвесь час гучала. Струны плакалі разам з Ірынкай і скардзіліся...

І тады з цёмнай снежнай далі вынырнула постаць прынцэсы Тугі.

Ішла яна памаленьку, але з упэўненасцю. Была ўжо побач з Ірынкай, узяла яе за руку і павяла ў змрочную даль. Там не было дзівосаў і цудаў, як у краіне каралевы Казкі, ані бліскучых зорак, як у краіне прынцэсы Мары. У краіне прынцэсы Тугі панавалі змрок і цемрадзь, стаяла халодная імгла...

Раніцай, калі сонейка запальвала на снезе тысячы іскрынак, Ірынку ўжо не разбуджваў князь Шчасце. Пабачыўшы слёзы, адляцеў ён хутка і беспаваротна.

Вечарам Ірынку не ўсыплялі ўжо песенькі варажбіткі Даверлівасці. Пры яе былі цяпер імглістая прынцэса Туга і шэры эльф Смутак.

З абодвух бакоў акружылі яны Ірынку і гаварылі ёй кожны сваю казку.

А казкі гэтыя былі шэрыя і сумныя. І Ірынка плакала, плакала... А разам з ёю рыдалі і скардзіліся сярэбраныя струны гітары...

**[Гальяш Леўчык]**

*Gazeta Słonimska, 1938, № 1, 25 снежня.*

**2 сакавіка** 1919 года Слонім быў акупаваны польскімі войскамі. Савецкія ўлады эвакуіраваліся на ўсход і вярнуліся ў горад на кароткі час у ліпені 1920 года.



**2 сакавіка** 2013 года ў Мінску на 83-м годзе жыцця памёр паэт і доктар філалагічных навук Мікола Арочка. Яго пахавалі на могілках у роднай вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна.

**3 сакавіка** 1934 года ў Слоніме нарадзіўся Анатоль Храноўскі, дзеяч беларускай эміграцыі ў Канадзе. З 1989 года ўзначальваў Згуртаванне беларусаў у Квебеку, з'яўляецца сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.



**6 сакавіка** (22 лютага па старому стылю) 1883 года ў вёсцы Варонічы Слонімскага павета нарадзіўся вядомы беларускі мовазнавец Янка Бялькевіч. Быў рэпрэсіраваны савецкімі ўладамі. Дагэтуль дакладна невядома, у якіх Варонічах нарадзіўся Бялькевіч, бо такія вёскі ёсць на захадзе Слонімскага і на ўсходзе Зэльвенскага раёнаў.

**7 сакавіка** 1951 года (у некаторых крыніцах падаецца 27 сакавіка) ў вёсцы Клепачы Слонімскага раёна нарадзіўся Васіль Апановіч, віцэ-адмірал, былы намеснік камандуючага Балтыйскім флотам (на пенсіі з 2009 года). Намеснік старшыні культурнай аўтаноміі беларусаў у Калінінградскай вобласці.

**7 сакавіка** 1962 года ўказам прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Слонім быў аднесены да катэгорыі гарадоў абласнога падпарадкавання. Са студзеня 1954-га ён быў у складзе Гродзенскай вобласці (раней — у складзе Баранавіцкай вобласці).

*Каляндар*

## Сакавік

**8 сакавіка** 1992 года ў Слоніме памёр Міхась Ракевіч, удзельнік беларускага патрыятычнага падполля ў 1946-1947 гг. Ураджэнец вёскі Ваўчкі Слонімскага раёна (нарадзіўся 19 лістапада 1927 г.). Быў рэпрэсіраваны савецкімі ўладамі, доўгі час жыў на чужыне, на радзіму вярнуўся за некалькі гадоў да смерці. Пахаваны на могілках у вёсцы Клепачы.



**10 сакавіка** 1926 года з вёсцы Глоўсевічы Слонімскага раёна нарадзіўся паэт, гісторык і археолаг Васіль Супрун. У 1947 г. быў рэпрэсіраваны за беларускую патрыятычную дзейнасць, на волю выйшаў у 1956 годзе. Аўтар некалькіх кніг вершаў, краязнаўчых даследаванняў, успамінаў, напісаў нарыс гісторыі Слонімшчыны — "Дзеі над Шчарай" (Слонім, 2000). Памёр 30 красавіка 2007 г., пахаваны на слонімскіх гарадскіх могілках.

**11 сакавіка** 1872 года памёр пісьменнік, святар Плакід Янкоўскі (ён нарадзіўся 20 верасня 1810 года ў Камянецкім раёне). З 1858 г. жыў у Жыровічах, выкладаў у духоўнай семінарыі, друкаваўся ў рэгіянальным друку. Аўтар шэрагу кніг, у тым ліку "Карэспандэнцыі са Слоніма" (1867).

**13 сакавіка** 1965 года ў вёсцы Вострава Слонімскага раёна нарадзіўся паэт і журналіст Мікола Кананович.

**14 сакавіка** 1990 года ў ЗША памёр беларускі грамадскі і рэлігійны дзеяч Аляксандр Асіпчык. Ён нарадзіўся 1 красавіка 1909 г. у вёсцы Пляшкі (цяпер — Партызанаўка) Слонімскага раёна. Аўтар кнігі "Цудатворны абраз Жыровіцкай Маці Божай і Жыровіцкі манастыр. Гістарычны нарыс", якую выдаў на эміграцыі.

**14 сакавіка** 2012 года Слонімскі райвыканкам зарэгістраваў недзяржаўную асветніцка-кансультатыўную ўстанову "Шэгамедкансультант". Яе кіраўнік — вядомы слонімскі доктар і грамадскі дзеяч Іван Шэга.

**15 сакавіка** 1921 года ў расійскім горадзе Томск у сям'і бежанцаў з вёскі Мяльканавічы Слонімскага раёна (сям'я вярнулася на радзіму ўжо ў 1921 годзе) нарадзіўся Васіль Мялешка, вядомы беларускі гісторык, доктар гістарычных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук. Памёр 5 верасня 2004 г.



**18 сакавіка** 1984 г. у Слоніме памёр вядомы ў міжваенны час заходнебеларускі паэт Іосіф Вількоўскі (Язэп Вількоўшчык), пахаваны на слонімскіх гарадскіх могілках. Ён — ураджэнец вёскі Гавенавічы Слонімскага павета (цяпер — вёска Падгорная Баранавіцкага раёна). У 2015 годзе выйшла кніга яго твораў "Прыкрыты сэрца боль" (укладальнікі — С. Ёрш і С. Чыгрын).

**23 сакавіка** 1933 года ў Альбярціне памёр Уладзімір Пянткевіч, протаігумен Усходняй місіі айцоў-езуітаў, суперыёр езуіцкага кляштара. Пахаваны на альбярцінскіх могілках.

**25 сакавіка** 1918 года ў Мінску (Менску) Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла трэцюю ўстаўную грамату, якой абвяшчалася дзяржаўная незалежнасць Беларусі.

**Слонімскі край**
Краязнаўчы бюлетэнь
Выдаецца з лютага 2016 года

Адрас для карэспандэнцыі:
slonimskikraj@gmail.com
Пры перадруку спасылка на "СК" абавязковая
Наклад 100 асобнікаў

Заснавальнікі і выдаўцы:
Васіль Герасімчык
Сяргей Ёрш
(рэдактар нумару)
Сяргей Чыгрын